Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена
ад 9 да 19 г.

Часапіс
выходзіць
раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.

№ 4 | Вільня, 11-га жніўня 1936 г. | Год I.

**Нумар 3-ці „Беларускага Фронту“ сканфіскаваны.**

**Выпускаем гэты нумар (4-ты) без сканфіскаванай перадавіцы.**

## Ідэолёгічныя асновы г. зв. „народнага“ фронту ў Польшчы і беларусы.

„Народныя“ фронты ў апрацоўцы VII кангрэсу Камінтэрну па сутнасьці сваей маюць быць творамі зусім простымі. Галоўная і бліжэйшая іх мэта: барацьба з фашыстаўскімі кірункамі, а далейшая: завядзеньне камунізму па ўсім сьвеце. Дзеля гэтага тварэньне „народных“ фронтаў для камуністаў ёсьць вельмі карысным і на гэта яны не шкадуюць ані энэргіі ані грашэй. У сучаснасьці камуністы змагаюцца нават за буржуазныя дэмакратычныя свабоды (свабода слова, друку, сабраньняў і г. д.), бо яны даюць ім усё-ж нейкую магчымасьць публічна выяўляць свой голас.

Важным дзейнікам, спрыяючым паўставаньню „народных“ фронтаў у Зах. Эўропе ёсьць трываючы ад некалькіх гадоў эканамічны крызыс.

Творыцца народны фронт і ў Польшчы, які прыймае што-раз выразьнейшыя формы. Тварэньню гэтага фронту ў Польшчы спрыяе, апроч цяжкога крызысу, нявырашанае пытаньне г. зв. нацыянальных меншасьцяў, якія шукаюць для сябе выхаду, думаючы, што „народны“ фронт забясьпечыць ім усе грамадзка-сацыяльныя і нацыянальныя правы. Сьледзячы за яго разьвіцьцём, пакуль што можна сказаць, што да яго маюць прыступіць польскія партыі ад камуністаў да партыяў людовых і некаторыя беларускія групы. Выдаецца шмат часапісаў, як „Wiadomości Robotnicze“, „Oblicze Dnia“, Nowy Ustrój“, Chłopskie Jutro“, „Karta“, „Наша Воля“ і інш. З гэтых газэт можам даведацца аб поступах гэтай новай палітычнай камбінацыі і яе ідэолёгіі.

Партыі, якія прыступаюць да „народнага“ фронту, хоць і не патрабуюць выракацца сваей уласнай праграмы, то аднак, дзеля скаардынаваньня тактыкі, зьявілася неабходнасьць прыняцьця некаторых агульных, абавязваючых прынцыпаў як у тэорыі так і ў практыцы, магчымых да прыняцьця ўсімі. Партыі перш за ўсё заключаюць „пакт ненападаньня“ паміж сабою — гэта ёсьць *першае правіла*, якое забавязвае сяброў „народнага“ фронту. *Другое правіла*—супольная барацьба з фашы-

стоўскімі кірункамі ў Польшчы, *трэцяе правіла*, самае галоўнае (zasada naczelna) — незалежнасьць Польшчы ў яе сучасных межах. Гэта ёсьць ужо выразныя ідэолёгічныя асновы „народнага“ фронту ў Польшчы, распрацаваныя яго ідэолёгамі. З гэтага відаць, што кожная партыя, якая прыступае да „народнага“ фронту, станавіцца на грунт польскай дзяржаўнасьці.

Адносна сацыяльнага пытаньня дык тут не задэкляравана нічога канкрэтнага. Левыя групы дэкляруюць змагацца з капіталістычным ладам, правейшыя (людовыя) пэўне-ж будуць трымацца сваей дасюлешняй праграмы і бараніць ладу, як кажуць камуністы, буржуазнага, абапёртага на прыватнай уласнасьці.

Нас цікавіць, рэч ясная, падыход „народнага“ фронту да разьвязкі беларускага пытаньня ў Польшчы. Адношаньне эндэкаў і кансэрватыстаў да беларускага пытаньня даўно ведама і яно зьмяшчаецца ў поўнай нэгацыі існаваньня асобнага беларускага народу. Што датычыцца народнага фронту, дык ён ня толькі ня выказаўся ў справе незалежнасьці Беларусі, але нават у справе беларускай незалежніцкай думкі. Дый было-б дзіўным спадзявацца, каб гэты камуністычна-буржуазны блёк заняў нейкае пазытыўнае становішча адносна незалежніцкіх імкненьняў беларускага народу. Левыя партыі „народнага“ фронту ня могуць парушаць гэтай справы хоць-бы дзеля салідарнасьці з камуністамі, якія ўжо „вырашылі“ гэтае пытаньне (як вырашылі—мы добра ведаем), апроч гэтага левыя польскія партыі тэорэтычна ў беларускай справе ня маюць ніякай праграмы, а практычна праводзяць такую самую асыміляцыю, як і эндэкі. Як ведама, ППС дагэтуль ня прызнала для беларусаў нават аўтаноміі (для ўкраінцаў тэорэтычна прызнала), „Вызваленьне“ было ўставіўшы ў выбарчыя лістоўкі 1922 г. жаданьне аўтаноміі для беларускіх зямель, але потым аб ім забылася; „Stronnictwo Chłopskie“ і „Stronnictwo Ludowe“ не прызнаюць беларусаў за аддзельны народ і г. д. Калі гэтыя партыі мелі ўладу ў Польшчы, беларускія масы былі палянізаваны, пашыралася асадніцтва, закладаліся польскія арганізацыі і школы, а ліквідаваліся беларускія, ня горш, як гэта рабілі правыя. З пункту сацыяльнага беларускія масы таксама нічога не атрымалі. Няма прычын чакаць, каб гэта зьмянілася на лепшае. Бо калі „левыя“ партыі не прызнаюць існаваньня беларускага пытаньня ў Польшчы, то правейшыя зусім запярэчваюць існаваньне беларускага народу. Даволі ўспомніць аб гэтакіх асобах, як Вітас, Кернік і інш.

Але каб зьяднаць беларусаў да „народнага“ фронту, газэты гэтага фронту (прыкладам віленская „Karta“) кормяць беларусаў толькі сэнтымэнтам, да каторага беларусы ўжо прывыклі, як да панскай ласкі. Гэтым „Karta“ нічым ня рожніцца ад „Kurjera Wil.“, які часам у беларускай справе пісаў даволі сымпатычна, так як і „Karta“. Але толькі таго, што пісаў.

Зразумела, што беларускі народ спагадае імкненьням польскіх сялян, работнікаў і наагул усіх працоўных да здабыцьця лепшых жыцьцёвых умоваў, але згадзіцца з сяньняшнім сваім лёсам у імя салідарнасьці з польскімі працоўнымі масамі аніяк ня можа. Польскі народ мае перад сабою толькі сацыяльныя справы, а беларускі— ня толькі сацыяльныя, але і нацыянальныя, якіх ён зракацца ня можа і ня будзе. У сучаснай сваей форме змаганьне народнага фронту з польскімі фашыстамі, узятае праз прызму інтарэсаў беларускага народу, ёсьць нічым іншым, як змаганьнем двух паноў, з якіх кожны на беларускую справу глядзіць аднолькава, з малымі рожніцамі варожа. Дапамаганьне ў гэтакіх варунках аднаму пану, скажам, народнаму фронту, было-б бескарыснай стратай беларускіх сіл і энэргіі. Апроч гэтага такое дапамаганьне было-б *полёнафільствам* у новай форме, *„зьлева“*, тады як дагэтуль было полёнафільства *„справа“*. Полёнафільства „зьлева“ куды больш небясьпечнае, чымся „справа“, бо імкнецца захапіць масы, маніць іх нейкай „паступовасьцю“, вялікім зрухам у бок консолідацыі беларускіх масаў з польскай дэмократыяй, з чаго быццам мае наступіць у беларускім жыцьці нешта вялікае, радаснае. Па сутнасьці-ж сваей ёсьць гэта найгоршая *рэакцыя*, бо спыняе беларускую незалежніцкую думку ў яе імкненьнях да асягненьня поўнага ідэалу беларускага народу, варочае яго на якіх 20 гадоў назад і ставіць у тых самых варунках, у якіх ён быў у Расеі да 1917 году. Народны фронт ня толькі не гвапантуе незалежніцкіх здабыткаў беларускага народу і яго сацыяльных патрэбаў, але выразна іх касуе, падсоўваючы ідэолёгію польскіх „шырокіх працоўных масаў“. І толькі. А дзе незалежнасьць, а дзе беларуская культура, а дзе зямля і воля?

Шмат змагаўся беларускі народ на розных чужацкіх фронтах, пара падумаць і аб сабе. Беларускія працоўныя масы, сяляне, работнікі, інтэлігенцыя, беларускія арганізацыі, павінны скаардынаваць свае сілы дзеля працы на ўласнай ніве нацыянальнай, на ніве культуры, палітыкі, эканомікі, якая дзякуючы бязупынным войнам на чужых фронтах і для чужых інтарэсаў, вельмі запусьцела і зарасла быльлём. У іншых варунках карысьць будзе большая і хутчэй надыдзе лепшая будучыня.

*М. Ш.*

# Змаганьне двух фронтаў.

З лёгкай рукі камуністычнай прэсы, што выходзіла ў Вільні па-беларуску, беларуская газэтная палеміка была зьведзена да асабістай лаянкі і дэфэнзыўных даносаў. Камуністы запраўды могуць пахваліцца ўвядзеньнем гэтых мэтадаў палемікі ў беларускае жыцьцё. Рабілася гэта, бязумоўна, паводле пляну і сыстэматычна. І нічога дзіўнага — гэтыя мэтады былі для камуністаў ідэальнымі: з аднаго боку яны ачарнялі праціўніка, а з другога — ухілялі некарыснае для іх змаганьне залежніцкай камуністычнай ідэолёгіі з незалежніцкай беларускай. Тасуючы ізноўжа як мага даносы налева, камуністы дужа ня любілі, калі праціўнікі адказывалі ім часам тым-жа направа. Лаянкай звычайна кіравала ананімная супалка, якая гуртавалася каля адпаведнай газэты. Лаялася сабе гэткая супалка на ўсе бакі да адчаю, а няведама было, хто да яе належаў. Толькі прыпадкова з працэсаў у польскіх судох беларускае грамадзянства даведывалася, што гэта за „беларусы“ тварылі супалку.

Гэткія мэтады надаелі ўсяму беларускаму грамадзянству. Яны, праўда, пачынаюць ужо гінуць, аднак калі-б дзесь і зьяўляліся, беларуская незалежніцкая прэса і грамадзянства павінны выпаліваць іх гарачым жалезам.

Зусім што іншае аб'ектыўная, рачовая, свабодная ад ненавісьці і нейкай асабістай злосьці, палеміка. Гэткая палеміка, злучаная з крытыкай, ў грамадзкім жыцьці ёсьць нават пажаданай, бо спрычыняецца да поступу паводле прынцыпу, дзе няма крытыкі, там няма і поступу. Гэткую крытыку „Бел. Фр.“ вітае і дзе здарыцца патрэба, будзе яе тасаваць.

Зрабілі мы гэтыя заўвагі ў сувязі з артыкулам „Фронт супроць фронту“ ў № 10(11) „Нашай Волі“ ад 7.VII. г. г.

У артыкуле гэтым „Н. В.“ ярасна, паводле выпрабаваных мэтадаў, нас заатакавала. Дагэтуль „Н. В.“ як газэта беларуская, ідэолёгічна была нявыразнай і амаль бязвартаснай. Цяпер сытуацыя крыху выясьнілася.

Толькі адносна нас „Н. В.“ дарма хапілася за асабістую лаянку (у дадатку сьмешную). Мы не падоймем яе закліку да зыходжаньня на некультурныя і непаважныя шляхі асабістых дацінкаў і лаянкі.

Нас цікавіць выключна толькі ідэолёгічны бок крытыкі „Н. В.“

Наўперад папраўім інфармацыі „Н. В.“, быццам наша група вытварылася дзякуючы нейкім непаразуменьням у Б. Н. А. Апрача нашага рэдактара ніхто з рэдакцыйнай калегіі ня быў сябрам Б. Н. А. Аб прычынах, паклікаўшых нашу газэту да жыцьця, „Н.В.“ хіба даведалася з першых двух нумароў „Бел. Фр.“ Між іншым аднэй з гэтых прычынаў было і агульнае ў беларускім грамадзянстве жаданьне скончыць з чужацкімі арыентацыямі і апёрціся толькі на беларускія ўласныя сілы.

„Н. В.“ выступаючы супроць „Бел. Фр.“ заявіла, што яна на старане польскага „народнага“ фронту. Пазыцыя выразная. Не шкадуючы нам эпітэтаў як „чорная рэакцыя“, „сілы аду“, „здрады“ і г. д. „Н.В.“ заклікае да барацьбы з нашым беларускім незалежніцкім нацыянальна-сацыяльным фронтам усе здаровыя прагрэсыўныя дэмакратычныя сілы нашага і польскага народу.

Эпітэты пустыя, але гэты патэтычны заклік дужа характэрны.

Аб тым, што такое нясе беларусам польскі „народны“ фронт, пішам у іншым месцы гэтага нумару. Заўважым толькі, што каб змагацца з нашай ідэолёгіей, трэба супрацьставіць ёй нейкую іншую. „Н. В.“ разумее гэта і тужыцца нейкі ідэолёгічны эляборат стварыць. Ведаючы вагу слова „незалежнасьць“ для беларускага народу, „Н. В.“ хоць апэруе гэтым словам, аднак абмінае як мага акт 25 сакавіка 1918 г. Відаць, „Н. В.“ мае для беларускага народу нейкую іншую „незалежнасьць“. Што гэта мае быць за „незалежнасьць“, так і не даведваемся, але дзеля яе характэрыстыкі досыць успомніць, што напрыклад Слуцкае паўстаньне „Н. В.“ высьмейвае.

Аднак, хоць „Н. В.“ і кінула

# „Karta“ Nr. 3|4.

Гэты двутыднёвік у польскай мове, рэпрэзэнтуючы ідэолёгію польскага „народнага“ фронту, як-бы ў адказ на заклік „Нашай Волі“ (№ 10), чаму „Карта“ не парушае пытаньняў нацыянальнага зьместу, у № 3/4 зьмясьціў артыкул гр. Дэмбінскага: „Wspólny front oświaty i kultury“, дзе абгаварываецца сёлетняя школьная акцыя, ведзеная супольна Т. Б. Ш і Б. І. Г. і К.

Справядліва кажа аўтар аб значэньні роднай мовы ў школах для беларускіх дзяцей, а так-жа, што беларускі народ ужо даўно творыць сваю ўласную народную культуру.

Шмат аднак цьверджаньняў гр. Дэмбінскага ў сувязі з беларускай школьнай акцыяй выклікае засьцярогі і з імі мы ня можам згадзіцца.

Перш за ўсе сёлетнюю беларускую школьную акцыю выклікалі іншыя імпульсы, чымся тыя, якія бачыць гр. Дэмбінскі. Аб гэтым пісалася ў папярэднім нумары „Бел. Фр.“ Зацемім толькі, што супольны школьны фронт двух беларускіх культурных установаў ня мае нічога супольнага з тым агульнапольскім „народным“ фронтам, які гр. Дэмбінскі відавочна мае на мэце.

Зусім няслушна гр. Дэмбінскі абмяжоўвае мэты, дзеля якіх беларускія масы дамагаюцца сваей школы і твораць сваю культуру. Ідзе тут ня толькі аб „лепшае клясавае ўсьведамленьне“, бо беларускі народ клясава даўно сьведамы і ведае, чаго хоча, ведае так-жа, што складаецца з сялян, работнікаў і інтэлігенцыі і што буржуазія і абшарнікі варожы яму ня толькі сацыяльна, але і нацыянальна. Тварэньне ўласнай культуры, народнай, ёсьць у цеснай сувязі з незалежніцкімі ідэаламі беларускага народу, які ня ўважае сябе за горшы ад іншых. Культурная беларуская праца — гэта адзін з адцінкаў агульна-беларускага нацыянальнага фронту і мае шмат шырэйшыя заданьні, чымся быць лепшым шляхам клясавага ўсьведамленьня.

Цікава, што за „Бел. Крыніцай“ і гр. Дэмбінскі ўважае за надта карыснае для беларускай культурнай працы злучэньне Т.Б.Ш. з Б. І. Г і К, чаго быццам даўно ўжо дамагаюцца і сябры Т. Б. Ш. Злучэньне гэта мае наступіць быццам пасьля правядзеньня школьнай акцыі, як другі этап супольнай працы, хоць бы на гэта злучэньне „Бел. Фронт“ і не згаджаўся.

Што азначала-б гэта злучэньне?

Адказ можа быць траякі: 1) ліквідацыя Т.Б.Ш. 2) ліквідацыя Б. І. Г і К. 3) ліквідацыя абыдвух установаў і стварэньне новай арганізацыі.

Апошняя камбінацыя, здаецца, выключана. Пазасталася-б адна з першых двух. Калі сябры Т. Б. Ш. дамагаюцца злучэньня (аб чым мы першы раз чуем), дык відавочна згаджаюцца пахаваць Т. Б. Ш. і ўліцца ў Б. І. Г. і К. Ня ведаем, наколькі праўдзівы пададзеныя гр. Дэмбінскім весткі, але калі адказываюць рэчаістасьці, дык запраўды больш ганебнай пастановы сяброў адносна сваей арганізацыі немагчыма было-б і прыдумаць, асабліва, калі прыняць пад увагу, што ідзе тут аб арганізацыю заслужаную, маючую свае традыцыі і шматгадовую гісторыю. І чаму якраз цяпер гэта пытаньне так раптоўна ставіцца на парадак дня? У дадзеныя часы беларусам патрэбна *не ліквідацыя* іх культурных установаў, *а скоордынаваньне* іх працы, добрым праявам чаго ёсьць сёлетняя школьная акцыя.

Характэрна толькі, што першая помач агульна-польскага „народнага“ фронту беларусам у іх культурнай працы начынаецца ад прапазыкі... зьліквідаваць адну з заслужоных беларускіх культурных установаў — Т. Б. Ш. Гр. Дэмбінскі зьяўляецца аднэй з тых адзінак-палякоў, якія хоць і аднабока, але спрыяюць прынамся культурным імкненьням беларускага народу. Тым трагічней выглядае яго заклік, чаму „Robotnik“, „Zielony Sztandar“, а так-жа іншыя польскія газэты і арганізацыі, як прыкладам „Związek Nauczycielstwa Polskiego“ упорыста „арыстакратычна“ маўчаць хоцьбы ў гэткай, здавалася, яснай і слушнай справе, як дамаганьне беларусамі школы ў роднай мове!

Для нас адказ ясны—хаваным імкненьнем гэтых арганізацыяў і часапісаў адносна беларусаў ёсьць так-жа асыміляцыя, толькі розьніца з правымі тая, што прыкладам эндэкі і Cat у „Слове“ кажуць аб гэтым адкрыта, а левыя лічаць гэта рэччу непрызваітай... І калі-б нават на заклік гр. Дэмбінскага хтось і адгукнуўся, дык было-б гэта па часе, пад прынукай, няшчыра.

Гр. Дэмбінскі куды цьверазейшы ад палітыкаў з „Нашай Волі“. З яго артыкулу напрашываецца сам той вывад, што калі кандыдаты ў арганізацыю польскага „народнага“ фронту маўчаць нават у гэткай справе, як беларуская школьная акцыя, дык беларусам запраўды ня варта ісьці ў гэты фронт. Нашы-ж палітыкі з „Н. В.“ хочуць быць большымі каталікамі, чымся сам папа. У артыкуле „Фронт супроць фронту“ яны паставілі не адну, а дзьве кропкі над „і“.

*Ш.*

абяцанку нейкай адменнай незалежнасьці, мы усё-ж уважаем, што і гэта зроблена зусім неразважна і, як жаўнер польскага „народнага“ фронту, „Н. В.“ дапусьцілася выразнай несубордынацыі адносна свайго камандаваньня і сільнейшых польскіх сяброў—ўсякіх „дэмакратычных“ польскіх групаў, належачых да супольнага фронту. Групы гэтыя ня то што аб незалежнасьці бел. народу, але агулам аб беларускім пытаньні маўчаць і пэўне-ж ніякага паўнамоцтва „Н.В.“ рабіць гэткія неразважныя абяцанкі не давалі...

„Н. В.“, аказваецца, знайшла шырокія польскія „дэмакратычныя“ групы, спрыяючыя незалежнай думцы беларускага народу і зрабіла з імі саюз. Беларускае грамадзянства ведае, што гэтых групаў шукалі ў сваім часе Умястоўскі, Паўлюкевіч, Валэйша і іншыя паляпафілы, аднак дарма — такіх груп не знайшлі. „Нашай Волі“ неяк адразу пашанцавала. Калі каля „Н. В.“ гуртуюцца асобы, якія, скажам, зваліліся „з неба“, дык ім хутка прыдзецца расчаравацца, бо гэткіх польскіх групаў, якія-б прызнавалі незалежнасьць Беларусі, няма.

Ёсьць, праўда, паасобныя палякі, каторыя часткова спрыяюць беларусам, але гэта адзінкі і іх можна палічыць на пальцах аднэй рукі. Групаў-же няма, а тым больш польскіх Гэрцэнаў.

„Н. В.“ відаць добра разумее сваю ідэолёгічную блытаніну, а каб беларускі народ на ёй не пазнаўся, хапаецца іншага спосабу, так-жа добра выпрабаванага: шырэньня палітычнага баламуцтва ў беларускім народзе. „Н. Волі“ не падабаецца ўсякая думка аб цьвярозым паглядзе на жыцьцё, яна падтрымлівае толькі пастаянную вулканізацыю і баламуцтва масаў, бо ведае, што толькі гэтакім спосабам дайдзе да сваіх мэт. Каб беларускія масы ведалі, куды іх вядзе „Н. В.“, яны за ею не пайшлі-б, дык каб зацягнуць беларускія масы ў польскі „народны“ фронт, трэба наўперад збіць іх з правільнай дарогі, а потым ужо змусіць іх прадаць сваю ўласную незалежніцкую ідэолёгію. „Н. В.“ ідзе да таго, каб народ згубіў надзею на сябе, а жыў толькі верай, што нехта дзесь аб ім дбае, трэба толькі слухаць недзе дабрадзея, — і усё будзе добра...

Заўважыць трэба, што гэтае ідэолёгічнае баламуцтва праглядае з усіх нумароў „Н.В.“, а ў апошнім—з басьняў аб сусьветных парляментах моладзі, дзе быццам яшчэ восеньню г.г. будзе братацца між сабой фашыстоўская і камуністычная моладзь, не стае толькі беларускай (пры гэтым „Н. В.“ забываецца выясьніць, што беларуская моладзь, як такая, ня мае права нават там паказацца, хіба толькі як польская, бо ў аснову склікань ня гэтых „парлямэнтаў“ паложаны прынцып рэпрэзэнтацыі дзяржаў, а не народаў), з басьняў аб шырокіх дэмакратычных кругох, скажам, польскіх, якія раптам ні з таго ні з сяго маняцца падтрымаць імкненьні беларусаў да кансалідацыі, да незалежнасьці, да самаазначэньня... Трэба толькі зьліцца з імі і ісьці супольна з польскім „народным“ фронтам супроць беларускага...

Гэта ўсё „Н. В.“ называе „поступам“ і гучна падносіць яго беларускім масам. Мы-ж называем гэткую пастаноўку справы найгоршай *рэакцыяй*, бо гэтым варочаецца беларускае пытаньне на некалькі дзесяткаў гадоў назад.

Дык мы перакананы, што гэтых „паступовых“ беларускіх сілаў, каторыя супольна з польскімі выступілі-б супроць беларускага фронту „Н. В.“ ня знойдзе. Чэсныя і шчырыя беларусы разам з чужынцамі процiў свайго ня пойдуць. Яны будуць у *беларускім* фронце.

*БЕЛАРУСЫ, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „БЕЛАРУСКІ ФРОНТ“.*

# На беларускім грунце.

### Школьная акцыя разьвіваецца.

Даходзяць да нас з усіх старон весткі, што акцыя дамаганьня роднай школы, ведзеная супольна дзьвяма найбольшымі беларускімі арганізацыямі: БІГ і К і ТБШ, разьвіваецца вельмі добра. Прадусім трэба сьцьвердзіць факт, што слых аб школьнай акцыі дайшоў да найболей глухіх кутвоў нашай вёскі, усюды будзячы беларускае грамадзянства да змаганьня за родную школу. Людзі масава зварочваюцца ў Школьны Сакратарыят, просячы дэкляpацыяў, фармуляраў заяваў, інструкцыяў і пішучы аб вялікіх перашкодах, якія ставяцца рознымі адказнымі і безадказнымі дзейнікамі ў школьнай акцыі. Аб гэтых перашкодах мы пісалі ў прошлым нумары нашага часапісу і паўтараць іх ня будзем. Найбольшыя перашкоды спатыкаюцца ў Наваградзкім, Беластоцкім і Палескім ваяводзтвах. Апроч перашкодаў з боку паліцыі, вялікія труднасьці ставяцца з боку войтаў, якія адмаўляюцца сьцьвярджаць подпісы бацькоў. Кідаецца ў вочы, што там, дзе найболей разьвіта школьная акцыя, найболей пашыраны кары за нячыстату, за няпрывязваньне сабак і г. д. (Баранавіцкі павет). Гэта вельмі прыбівае насельніцтва. Паміма ўсяго жаданьне роднай школы ня толькі ня спыняецца, але закараняецца яшчэ глыбей. Былі факты, што па дэкляpацыі і па іншыя друкі сяляне высылалі адумысловых дэлегатаў, а з Наваградчыны выслалі чалавека з фурманкай, які зрабіў у абодва бакі каля 340 клм. дарогі! Гэтым людзям ужо ніяк ня можна закінуць, што яны не жадаюць беларускай школы.

Наагул да жніўня месяца г. г. было выслана на правінцыю да 50 тысяч дэкляpацыяў. Ці яны ўсе будуць падпісаны — гэта іншая справа, але такое масавае жаданьне дэкляpацыяў сьведчыць аб масавым жаданьні беларускай школы.

Яшчэ трэба адзначыць адзін факт, што куратар Шэлёнгоўскі ў першых днях жніўня звольнены са службы. На яго месца назначаны дасюлешні кракаўскі куратар — Гадэцкі. Ці за зьменай куратара наступіць зьмена ў школьнай палітыцы адносна беларусаў — пакажа будучыня.

### „Калосьсе“ кн. 3, 1936 г.

Выйшла ўжо ў гэтым годзе 3-я кніжка літаратурна-навуковага часапісу „Калосьсе“. Зьмест багаты і цікавы. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў гэтай кніжцы няма такіх дысонансаў, як у 2-й кніжцы, аб чым мы пісалі ў 1 нумары „Б. Фр.“ На чале кніжкі ідуць паэмы: „Мамчына горка“ М. Машары і „Нарач“ М. Танка — нашых двух тутака перадавых паэтаў. Чытаючы адну і другую паэму, выносіцца ўражаньне, што М. Машара можа не адказваць на напасьць М. Танка, зьмешчаную ў адным з апошніх нумароў „Нашай Волі“: параўнаньне аднэй і другой паэмы выходзіць на некарысьць Танка і ёсьць з боку Машары найлепшым адказам Танку.

### „Юбілей“ у Жодзішках.

Як мы ўжо паведамлялі, 12.VII. г.г. мелася адбыцца сьвяткаваньне 10-ых угодкаў існаваньня Жодзішнага гуртка Бел. Інстытуту Г. і К. На сьвяткаваньне прыехаў з Вільні старшыня БІГ і К кс. В. Гадлеўскі, зыйшлося так-жа многа людзей. Аднак сьвяткаваньне не адбылося для тэй прычыны, што вялейскі староста ня даў дазволу... Дый, кажучы праўду, ні то што ня даў дазволу, але паступіў яшчэ горай, бо паставіў такія варункі, якія адабралі магчымасьць карыстацца з дазволу, калі-б нават ён быў дадзены. Справа ў тым, што староста паставіў рэфэрэнту К. Чартовічу варунак *чытаць рэфэрат папольску...* Ясная рэч, што К. Ч. гэтага варунку ня прыняў, бо як можна ў беларускай арганізацыі, ды яшчэ на сьвяткаваньні 10-ых угодкаў існаваньня, зыходзіць з свайго роднага шляху і заводзіць польскую мову! Цікава, хто слухаў-бы гэтага рэфэрату? Ня слухалі-б яго беларусы, бо яны прышлі пачуць рэфэрат беларускі, мусіць ня слухалі-б пры пустой салі і начальнік паветавай паліцыі, і рэфэрэнт публічнай бясьпечнасьці, якія якраз на той дзень былі прыехаўшы з Вялейкі ў Жодзішкі. Дык нашто такое вымаганьне?

Але апроч гэтага здарыўся яшчэ адзін факт, які таксама выклікаў на ўсіх прысутных цяжкое ўражаньне. Калі прыехаў кс. В. Г. дык на яго прывітаньне сабралася ў хату і дварышча поўна людзей, з якімі кс. В. Г., як іх даўнейшы пробашч, вёў у хаце зусім апалітычную гутарку. У гэтым часе адмін. улады, якія былі прыехаўшы з Вялейкі, прыслалі загад разыйсьціся ўсім, з выняткам сяброў Інстытуту...

Гэтак адбыўся „юбілей“ у Жодзішках.

Ва ўсей гэтай справе кс. В.Г., як старшыня Інстытуту, рабіў інтэрвэнцыю ў Віл. ваяводзкіх уладаў, якія абяцаліся справу дасьледзіць.

Ад сябе адзначаем, што такога варунку, які паставіў вялейскі староста, *каб у беларускай арганізацыі чытаць рэфэрат папольску*, яшчэ на працягу 10-ці гадовай дзейнасьці Інстытуту ня ставіў ніводзен староста!

### Студэнцкая экскурсія ў Наваградчыну.

Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні сёлета зладзіў краязнаўчую экскурсію (вандроўку) па Наваградчыне. Зборка была назначана ў в. Валяўцы каля воз. Сьвітэзь на 12.VII г. г., экскурсія прайшла праз цэлы рад мясцовасьцяў і скончылася ў Наваградку. Але і там не абышлося без перашкод з боку паліцыі. І так — на самым пачатку быў арыштаваны студ. В. Войтэнька, рэшта экскурсантаў была легітымавана ў аднэй з вёсак яўнай і тайнай паліцыяй, акая зварочвалася да кіраўніка экскурсіі з жаданьнем каб экскурсанты не кантактавалі ся з насельніцтвам... На наш пагляд, якая можа быць краязнаўчая экскурсія без кантакту з насельніцтвам?

### Новыя вучоныя сілы.

Сёлета на Віл. унівэрсытэце здабылі навуковыя ступені маладыя беларусы: *Станіслаў Станкевіч* — тытул доктара філязофіі за працу: „Беларускія элемэнты ў польскай романтычнай паэзіі“. Праца напісана вельмі добра. *Язэп Бурак* скончыў факультэт права і грамадзкіх навук з тытулам магістра; у галіне малярства атрымаў дыплём дыплёмаванага мастака абсольвэнт факультэту *Кузьма Чурыла*. Усім жадаем плоднай працы па карысьць навукі і Беларусі.

# На міжнародным грунце.

*(Агляд міжнароднай палітыкі за месяц ліпень).*

### Абісынія не здаецца.

Ня гледзячы на тое, што большая часьць Абісыніі разам з яе сталіцай Адіс-Абэбай занята італійскім войскам, а нэгус уцёк з краю і прабывае ў Англіі, Абісынія вядзе далей змаганьне з Італіяй. Карыстаючыся з таго, што ў Абісыніі цяпер наступіла дажджлівая пара і італійскія аэрапляны ня могуць разьвіць сваей дзейнасьці, абісынцы зарганізаваліся нанова і павялі наступ на галоўныя цэнтры краю, як Дэсье і Адіс-Абэба. Пад Дэсье адбылася крывавая бітва, у каторай лягло з аднаго боку і другога каля 7 тысяч чалавек. Тое самае было і пад Адіс-Абэбай і нават былі разыйшліся чуткі, што абісынцы адабралі назад сваю сталіцу. Чуткам гэтым рашуча запярэчыла Італія. Мя ня верым у тое, каб цяпер абісынцы перамаглі італійскае войска, але з усяго відаць, што пацыфікацыя Абісыніі ідзе вельмі туга і ў заваёваным краі Італія будзе мець шмат клопату. Абісынскія паўстанцы толькі тады маглі-б лічыць на ўдачу, калі-б Італія ўпуталася ў нейкую новую ваенную авантуру і не магла высылаць у Абісынію большай колькасьці войска.

### Пляны Італіі.

Італія належыць да тых „дынамічных“ дзяржаў, аб каторых мы пісалі ў прошлым нумары нашай газэты. Сучасная яе мэта такая: заснаваць навакол Міжземнага мора вялікую Рымскую імпэрыю, так як гэта было на пачатку нашай эры. Дзеля гэтага ў яе плянах ляжыць аслябленьне ўсіх дзяржаў, якія знаходзяцца або маюць уплывы на берагох Міжземнага мора. Такімі дзяржавамі ёсьць перадусім Англія і Францыя. Англія дзяржыць у сваіх руках выхады з Міжземнага мора (Гібралтар і Суэскі канал), а Францыя — дзьве краіны, на каторыя Італія ўжо здаўных вострыць свае зубы: Туніс і Алжыр (Algier). Каб аслабіць Англію, Італія паддзержывае арабскае паўстаньне ў Палестыне, а цяпер у Гішпаніі, спадаючыся, што калі гішпанскія паўстанцы возьмуць верх, то ў імя нацыянальнай ідэі, яны пры помачы Італіі выганяць з Гібралтару англійцаў... (Трэба ведаць, што Гібралтар ляжыць на гішпанскай тэрыторыі і ёсьць вялікай балячкай для гішпанскай нацыянальнай гордасьці, якая ня можа даравіць заняцьця Англіяй такога важнага пункту, як Гібралтар. Гібралтар — гэта адна суцэльная крэпасьць, высечаная ў скале). Калі-б гішпанскія нацыяналісты пры помачы Італіі занялі Гібралтар, то адзін уваход у Міжземнае мора для Англіі быў-бы закаркаваны, астаўся-б другі—Суэскі канал, але і там ужо працуе італійская „дыплямацыя“, падымаючы паўстаньні як з аднаго боку каналу (ў Палестыне), так і з другога (ў Эгіпце). Калі-б Італіі ўдалося такім ці іншым парадкам закаркаваць для Англіі абодва канцы Міжземнага мора, тады яна была-б валадарыняй на гэтым моры і паволі захапляла-б пад сваю ўладу ўсе яго берагі, пачынаючы ад Гішпаніі, а канчаючы на Грэцыі, Палестыне і Эгіпце...

А што Францыя? У Францыі даволі паддзяржаць урад Блюма і „народны“ фронт, каб яна зусім аслабела... Дзеля гэтага бачым такое, на першы пагляд, дзіўнае зьявішча, што нацыяналістычная Італія (разам з Нямеччынай) памагае нацыяналістычнай Гішпаніі, але не памагае нацыяналістычнай Францыі, кансалідацыя якой магла-б папсаваць усе пляны Муссоліняга і Гітлера... Для абодвых дыктатараў цяперашні хаос і бязладзьдзе ў Францыі найболей карысны і яны гатовы паддяржаць там і „народны“ фронт і нават камунізм, каб толькі аслабіць Францыю. (Як ведама, Нямеччына спрычынілася да ўвядзеньня камунізму ў Расеі, у 1917 г. перавозячы туды з Швайцарыі ў заплёмбованым вагоне камуністычных павадыроў на чале з Леніным і Троцкім).

### Пляны Нямеччыны.

Нямеччына пасьля вайны паставіла сабе такую галоўную мэту: здабыць паміж народамі роўнае права, якое было ад яе адабрана Вэрсальскім трактатам. Да гэ-

тай мэты яна ішла плянова і сыстэматычна і, трэба сказаць праўду, дайшла. Яна перастала плаціць ваенныя адшкадаваньні, якія былі на яе наложаны; увяла агульную вайсковую службу і за год будзе ўжо мець поўных 36 дывізыяў; здабыла сабе права вааружэньня на сушы і на моры; здабыла пры помачы плебісцыту правінцыю Саару; ўвяла сваё войска ў Надрэнію і пачала па францускай граніцы будаваць магутныя ўкрапленьні, (так як гэта зрабіла з другога боку Францыя), а цяпер заключыла саюз з Аўстрыяй. Далейшыя мэты Нямеччыны такія: далучэньне Гданска разам з г. зв. карыдорам; здабыцьцё калёній, а ўрэшце, а можа і перед гэтым, здабыцьцё прастору на Усходзе, прадусім на Украіне, прастору для нямецкай колёнізацыі...

Але аб гэтым другім разам, а цяпер мы разгледзім значэньне яе ўгоды з Аўстрыяй.

### Угода Нямеччыны з Аўстрыяй

Аднэй з палітычных мэтаў Нямеччыны ёсьць далучэньне Аўстрыі, заселенай немцамі (каля 7 мільёнаў); але процiў далучэньня (аншлюсу) выступалі ўсе дзяржавы, якія баяліся ўсіленьня Нямеччыны, апроч Польшчы. Польская палітыка, хочучы адвярнуць увагу Нямеччыны ад усходніх спраў і скіраваць яе на поўдзень, процiў далучэньня нічога ня мела. Нямецкая палітыка, якая ідзе па лініі „дакананых фактаў", ужо пару гадоў таму прабавала далучыць Аўстрыю пры помачы аружнага паўстаньня аўстрыйскіх гітлероўцаў. Але тады прыхільнікі далучэньня былі разьбіты пры помачы Італіі, якая ў той час дружыла з Францыяй.

11 ліпня аднак неспадзявана наступіла ўгода паміж Аўстрыяй і Нямеччынай. Варункі ўгоды такія: 1) Нямеччына прызнае незалежнасьць і сувэрэнасьць Аўстрыі, значыць, фармальна выракаецца аншлюсу, 2) абедзьве дзяржавы ня будуць умешвацца ўзаемна ў нутраныя справы, зн. Нямеччына ня будзе завадзіць у Аўстрыі нац-сацыялізму, 3) Аўстрыя ў сваей палітыцы будзе кіравацца, як нямецкая дзяржава, агульнанямецкімі інтарэсамі, значыць, будзе каардынаваць сваю палітыку з нямецкай. Гэты апошні пункт ставіць аўстрыйскую палітыку ў некаторай залежнасьці ад нямецкай.

Угода гэта мае вялізарнае значэньне для эўрапэйскай, а нават сусьветнай палітыкі, бо тут ідзе ня толькі аб згоду Ням. з Аўстрыяй, але сягае далей і глыбей: яна сьцьвярджае, што наступіла згода паміж Нямеччынай і Італіяй, паміж гітлерызмам і фашызмам. Гітлер і Муссоліні праз Аўстрыю падалі сабе рукі. Гэтым самым заснаваўся ў Эўропе блёк двух вялікіх дзяржаў, да якіх прыхіляюцца Аўстрыя і Вэнгрыя. Мэтай гэтага блёку ёсьць рэвізія цяперашніх граніц у Эўропе і дзеля гэтага тыя дзяржавы завуцца *рэвізыёністычнымі*, а ўсе іншыя кансэрватыўнымі, бо хацелі-б захаваць так, як ёсьць (status quo).

Француская прэса падае, што апроч пунктаў яўных у нямецка-аўстрыйскай згодзе, ёсьць і тайныя, датычачыя вайсковага супрацоўніцтва. На пацьвярджэньне гэтых слоў газэты падаюць факты дымісыяў тых аўстрыйскіх генэралаў, якія варожа выступалі процiў нац-сацыялізму, а назначэньне на іх месца спрыяючых Гітлеру. З гэтай угоды відаць, што ведамы нямецкі дыплямат у Вене фон Папэн ня сядзеў, злажыўшы рукі, але даканаў вялікага дзела. Скуткі гэтага дзела ўжо відавочны, бо калі Англія з Францыяй папрасілі на канфэрэнцыю лёкарнаўскіх дзяржаў Італію, то Муссоліні заявіў, што Італія без Нямеччыны на канфэрэнцыю сваіх прадстаўнікоў не пашле. Хочучы ці ня хочучы, дзяржавы мусялі папрасіць і Нямеччыну. Канфэрэнцыя гэта, маючая забясьпечыць мір у Зах. Эўропе, будзе склікана ў восені г. г.

### Падзеі ў Гішпаніі.

У Гішпаніі, коратка кажучы, кіпіць. Там на працягу пару гадоў адбывалася бязупынная рэвалюцыя, а пры ёй поўная дэзор'ентацыя мас, анархія ва ўсіх арганізацыях, слабасьць ураду і г. д. Моцнымі асталіся толькі два дзейнікі: армія і камуністы, гэтыя апошнія, так як усюды, і там стварылі „народны" фронт. Гэтыя дзьве сілы ўзяліся цяпер за грудзі і вось ужо тры тыдні, як у Гішпаніі ідзе крывавае змаганьне.

Пачалося з таго, што паліцыя, якая была на ўслугах „народнага" фронту, забіла павадыра манархістаў Кальво Сотэлё. У адказ на гэтае, войска падняло паўстаньне процiў ураду „народнага" фронту. Апэрацыйнай базай паўстанцаў зьявілася Марокко (у Афрыцы, за Гібралтарскім праліваам), адтуль яны пераправілі вайсковыя сілы ў Гішпанію і пачалі паход на сталіцу Гішпаніі, Мадрыт. Павадырамі паўстанцаў ёсьць генэралы Франко і Молё, а на чале ўрадавых войск стаіць Рэвалюцыйны Камітэт. Сілы як паўстанцаў так і ўраду (народнага фронту) бадай аднолькавыя, затым і вайна зацягнулася гэтак доўга. Трэба прызнаць, што вайсковая тэхніка па старане паўстанцаў і дзеля гэтага яны перамагаюць. Змаганьне адбываецца з вялікай заўзятасьцяй: даволі сказаць, што ўжо ёсьць болей 30 тысяч забітых, а раненых у некалькі разоў болей; некаторыя гарады і мястэчкі пераходзяць з рук у рукі.

Але нас тут ня так інтарасуе ход змаганьня, як *скуткі* ўсяго гэтага і якія „заплеччы" кіруюць гэтым крывавым змаганьнем. Як мы ўжо ўспаміналі, памагаюць паўстанцам Італія і Нямеччына, пасылаючы ім аэрапляны і амуніцыю, а ўраду — Францыя, Саветы і... Англія. Францыя і Саветы — гэта яшчэ зразумела, але чаму памагае народнаму фронту Англія? Адказ на гэтае пытаньне мы далі ў артыкуле „Пляны Італіі": Англія баіцца адабраньня ад яе Гібралтару. Магчыма, што дзеля гэтага яна дала згоду на канфэрэнцыі ў Монтрэ на свабодны праход савецкіх караблёў праз Дарданелы ў Міжземнае мора... Савецкія караблі могуць аказацца для Англіі памоцнымі процiў італьянскіх караблёў...

Як бачым, падзеі ў Гішпаніі могуць адбіцца на сусьветнай палітыцы, паглыбляючы прорву паміж двама блёкамі эўрапэйскіх дзяржаў. Некаторыя газэты пішуць, што з прычыны гішпанскіх падзеяў, а лепш кажучы, нарушаных гэтымі падзеямі інтарэсаў вялікіх дзяржаў, вайна павісла на валаску... Каб усьцерагчыся ад гэтай вайны, з ініцыятывы Францыі склікаецца канфэрэнцыя, якая мае забараніць даваць помач як аднэй так і другой ваюючай старане ў Гішпаніі. Але пакуль зьбярэцца гэта канфэрэнцыя, дзяржавы далей будуць памагаць хатняй вайне ў Гішпаніі.

***БЕЛАРУСЫ,*** *Мы павінны мець сваю сапраўды незалежную прэсу. Але каб яе мець, трэба больш ахвярнасьці і помачы ня з боку чужых сілаў, а з боку самых беларусаў.*

*Матэрыяльная залежнасьць робіць залежнай і прэсу, а залежная прэса ня можа незалежна асьвятляць ані беларускай народнай справы агулам, ані праяваў беларускага палітычнага і грамадзкага жыцьця ў асобнасьці.*

*„Беларускі Фронт" ёсьць газэтай цалком незалежнай ад усіх чужых сілаў—дык памажэце яму, каб ён мог выходзіць як можна часьцей.*

*Прысылайце ахвяры, складкі; выпісвайце газэту і пашырайце яе. Падавайце адрасы Вашых знаёмых.*

*Прысылайце так-жа весткі і інфармацыі з жыцьця Вашай старонкі.*

*Усё шлеце на адрас: Вільня, Вострабрамская 2 — 11 Рэдакцыя „Беларускага Фронту".*

# З Польшчы.

### Важны цыркуляр.

Дня 13 ліпня прэм'ер гэн. Складкоўскі выдаў цыркуляр да ўсіх урадавых устаноў, што другой асобай пасьля Прэзыдэнта Рэспублікі ёсьць Ген. Інспэктар Арміі Рыдз-Сьміглы і што яму належыцца послух ад усіх урадаўцаў, ня вылучаючы міністраў і самога прэм'ера. Дзеля гэтага заграцічныя газэты пісалі, што паўната ўлады перайшла ў рукі ген. Рыдз-Сміглага, а „Goniec Warsz." пісаў, што гэты цыркуляр ёсьць пачаткам пэрыяду дыктатуры і прынцыпу „павадырства" ў польскім паліт. жыцьці. Гэтаксама пісаў і „Kur. Wil.", выказываючы патрэбу злучэньня ў адным пункце ўсіх палітычных вузлоў. Але найясней пісала „Gaz. Polska", падаём яе словы: „Польшч знаходзіцца паміж Расеяй і Нямеччынай; тут і там уся дзяржаўная магутнасьць знаходзіцца як меч у руках аднаго чалавека. Раз ужо ў гісторыі народу мы цяжка заплацілі за тое, што суседзі нашыя мелі вялізарную і рашучую над намі перавагу, якая выплывала якраз з рожніц дзяржаўнага строю. Ці яшчэ раз мы маем даваць такую прэмію"? — пытае газэта. З гэтых слоў відаць, што зьбліжаныя да ўраду кругі ня хочуць дапусьціць да дэмократызму ў Польшчы, але аддаюць меч, а з мячом і ўладу, у рукі аднаго чалавека, так як гэта ёсьць у Нямеччыне і Саветах.

### Пробы стварэньня новай урадавай партыі.

Дзеля таго што ніводзін урад ня можа ўдзяржацца праз даўжэйшы час без апірышча ў грамадзянстве, цяперашнія ўрадавыя кругі стараюцца стварыць на месца развязанага ББВР новую паліт. групу, якая была-б ня толькі апірышчам для ўраду, але і ядром „народнай згоды". За арганізацыю гэтай групы ўзяўся палк. А. Коц, але ўжо прайшло некалькі месяцаў, а групы яшчэ няма. Ня могуць знайсьці назову і сацыяльнай плятформы, якая-б злучыла ўсіх пілсудчыкаў. У справе назову былі два праекты: паводле аднаго група мела-б назвацца „Organizacja Obrońców Ojczyzny", або ООО, (што жыдоўскі „Nasz Przegląd" ядавіта назваў „Organizacja trzech zer"), паводле другога праекту: „Stowarzyszenie Samopomocy Społecznej" або SSS. Справа аднак дагэтуль ня вырашана. На перашкодзе стаіць ня так нястача адпаведнага назову, як рожніцы у паглядах на сацыяльна-гаспадарчыя справы.

Як ведама, даўн. ББВР ня мела сацыяльнай праграмы, а ўся рацыя існаваньня гэтай групы было паддзяржаньне палітыкі і асобы марш. Пілсудскага, які ў апошнія часы сацыяльнымі справамі бадай што не займаўся, аддаўшы іх у рукі сваіх супрацоўнікаў і пакінуўшы сабе толькі вайсковыя справы і заграцічную палітыку. Аднак і супрацоўнікі сацыяльнымі справамі мала займаліся, у тым пракананьні, што веліч і павага Маршалка хваціць за ўсё. Гэтакая палітыка была вельмі аднабокай, бо ня вырашала сацыяльных пытаньняў, якія насьпявалі ў Польшчы і гэтым прывяла да таго што, паводле слоў Бартэля, у Польшчы запахла рэволюцыяй. Дык кіраўнікі польскай палітыкі пастанавілі ўзяцца за разьвязку гаспадарчых труднасьцяў.

Але разьвязаць гэтыя труднасьці ня так лёгка. Справа ў тым, што як марш. Пілсудскі пад канец свайго жыцьця не займаўся сацыяльнымі справамі і не выявіў свае сац. праграмы, так і ягоныя генэралы дагэтуль не апублікавалі сацыяльнай праграмы, а без сац. праграмы ня можна стварыць грамадзка-палітычнай групы. Кажуць, што гэта мае зрабіць ген. Рыдз-Сьміглы, сябра левага Люблінскага ўраду з 1918 г. Ходзяць чуткі, што Рыдз-Сьміглы мае абапёрціся на сялянстве, дзеля гэтага падгатаўляецца шырокая зямельная рэформа, якая мае зьяднаць сялянства для сяньняшніх кіруючых кругоў у Польшчы. Зьяднаньне сялянства мае адбыцца над галовамі цяперашніх сялянскіх партыяў і іх павадыроў, з гэтага відаць, што амнэстая для Вітаса і іншых эмігрантаў ёсьць неактуальнай. Зьезд польскіх эмігрантаў (Вітас, Карфанты і інш.) у Морж (Morges) тут мала памог.

### Новая зямельная рэформа.

Паводле пэўных вестак, урадам апрацоўваецца новая „радыкальная" зямельная рэформа. Прычын гэтай рэформы падаецца некалькі: перанасяленьне вёскі; задаўжэньне вялікай уласнасьці, якая працэнтова бяручы не дае столькі даходу дзяржаве (падаткаў), колькі малая ўласнасьць; шуканьне ўрадам, як мы ўжо казалі, апірышча ў сялянскіх масах. „Polska Zbrojna" (орган вайсковых кругоў у Польшчы), піша аб патрэбе зямельнай рэформы на тэй падставе, што сялянская маса пры цяперашнім палажэньні можа стацца стыхіяй, што не будуе, але руйнуе... Урадавыя кругі праз гэтую зямельную рэформу маюць намер абдзяліць вясковых безработных вярштатамі працы і гэтым прыпыніць дэмонстрацыйныя выступленьні сялянства. Некаторыя газэты пішуць, што ў этнографічнай Польшчы зямлі для рэформы ўжо мала, дык трэба высылаць на „крэсы", апроч гэтага жадаюць, каб урад памагаў сялянству пераносіцца ў гарады і мястэчкі і там закладаць майстэрні, вясьці гандаль, каб такім чынам аслабіць жыдоўскі і ўсіліць польскі элемэнт у эканамічных і культурных цэнтрах, якімі ёсьць месты.

Гэтыя цэнтры на „крэсах" мелі-б стацца асяродкамі польскай культуры на месца касаваных двароў.

Новую зямельную рэформу ўрад мае праваадзіць з усей рашучасьцю. Дзеля гэтага мае быць нават назначаны новы прэм'ер, цяперашні мін. земляробства, Панятоўскі, які пасьля ўспакаеньня краю ген. Складкоўскім, праводзіў-бы зямельную рэформу.

Ці яна будзе карысна для беларусоў—пакажа будучыня. Адно толькі ведама, што ўсе папярэднія рэформы, пашыраючы на нашых землях калянізацыю і асадніцтва, нам карысьці не прынясьлі.

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га верасьня.*

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч.*

Рэдактар-Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.